Bullet
# За правы чалавека

Віцебскі рэгіянальны праваабарончы бюлетэнь

№ 6 (89) Чэрвень 2014 г.

## Зарэгістраваная чарговая скарга ў Камітэт ААН па правох чалавека

Упраўленьнем Вярхоўнага камісара ААН па правох чалавека зарэгістраваны зварот у КПЧ жыхара вёскі Буяны Віцебскага раёну **Леаніда Здрэстава**. Актывіст вымушаны быў зьвярнуцца ў міжнародны орган па абарону пасьля таго, як улады адмовілі яму ў дазволе на правядзеньне пікету, а ўсе судовыя інстанцыі, у якіх ён спрабаваў быў абскардзіць гэтую адмову, — ад Кастрычніцкага райсуду Віцебску да Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь — сталі на бок уладаў.


Леанід Здрэстаў

Мэта пікету, які ў выніку забароны ўладамі Леанід Здрэстаў так і ня зладзіў: інфармаваньне жыхароў Віцебскай вобласьці пра сыстэматычныя парушэньні дзяржаўнымі органамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь яго правоў і законных інтарэсаў. Пікет быў забаронены намесьнікам кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Віцебску Віктарам Галанавым на той падставе, што арганізатар пікету не заключыў дамоваў са службай ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай, тым самым ня выканаўшы патрабаваньняў рашэньня Віцебскага гарвыканкаму № 881 ад 10 ліпеня 2009 году «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску».

Варта адзначыць, што ў пікеце мусіў браць удзел толькі адзін чалавек. Леанід Здрэстаў перакананы, што такое адзіночнае пікетаваньне паводле свайго практычнага і юрыдычнага сэнсу ніяк ня можа ўважацца за масавае мерапрыемства, таму адмова яму ў правядзеньні акцыі на падставе заканадаўства аб масавых мерапрыемствах — гэта бязглуздзіца. Тым ня менш беларускія суды гэтага аргумэнту не пачулі.

Леанід Здрэстаў — ня першы жыхар Віцебшчыны, якому мясцовыя ўлады забаранілі пікет, які ня змог адстаяць свае правы ў судох і які ў выніку зьвярнуўся ў Камітэт ААН па правох чалавека. Як правіла, КПЧ у такіх выпадках падтрымлівае заяўнікаў і прызнае, што ўлады парушылі іх правы на распаўсюд інфармацыі і публічнае выказваньне сваіх меркаваньняў. У сваіх рашэньнях па гэткіх справах КПЧ зьвяртае ўвагу ўладаў Беларусі на неабходнасьць прыняцьця мераў па недапушчэньні такіх парушэньняў правоў чалавека ў будучыні.

Аднак у габінэтах беларускіх начальнікаў зважаць на рашэньні КПЧ не сьпяшаюцца. Рашэньне Віцебскага гарвыканкаму, спасылаючыся на якое за амаль пяць гадоў мясцовыя ўлады не дазволілі ў Віцебску ніводнай акцыі апазыцыянэраў і грамадзкіх актывістаў, скасоўваць, здаецца, ніхто не зьбіраецца. Як ніхто не зьбіраецца нешта мяняць і ў законе «Аб масавых мерапрыемствах», які дае права мясцовым уладам на ўласны одум забараняць грамадзянам ладзіць мірныя акцыі і публічна выказваць свае меркаваньні, што несумяшчальна з прынцыпамі дэмакратыі.

## *Судзьдзя запатрабавала ад журналістаў весьці запіс на магнітафон*

**Журналістам з Глыбокага на адкрытым судовым працэсе не дазволілі весьці аўдыёзапіс. Пра гэта распавёў журналіст Зьміцер Лупач.**


Зьміцер Лупач

Разам з калегам Зьміцер Лупач прысутнічаў на судзе па крымінальнай справе — забойстве дзевяцімесячнага дзіцяці ў сьнежні 2013 году. У першы дзень працэсу судзьдзя забараніла журналістам карыстацца тэхнічнымі сродкамі. Аднак у інтэрнэце яны знайшлі, што аўдыёзапіс у зале суду на адкрытым паседжаньні можна рабіць нават без дазволу судзьдзі. Такая норма ёсьць у пастанове Прэзыдыюму Вярхоўнага Суду №11 ад 20 сьнежня 2013 году. Пры гэтым паведамляць суду пра запіс не абавязкова.

На другі дзень судовага паседжаньня журналісты сталі карыстацца дыктафонамі. На гэта адразу зьвярнуў увагу абвінавачаны, які паведаміў пра гэта свайму адвакату, а той — судзьдзі. Судзьдзя Людміла Вашчанка, прыгразіўшы выдаліць карэспандэнтаў з залі суду, забараніла карыстацца дыктафонамі.

Вашчанка: *"Паважаная прэса, паводзьцеся, калі ласка, карэктна. На сёньняшнім паседжаньні суду вы не пыталіся ў суду дазволу весьці які-небудзь запіс. Згодна з законам, вы маеце права весьці ручны запіс або магнітафонны запіс. Іншыя віды запісу ў КПК не прадугледжаныя, таму, калі ласка, выконвайце закон".*

Дарэчы, у Крымінальна-працэсуальным кодэксе сапраўды гаворыцца пра ручны або магнітафонны запіс. Але магнітафоны даўно састарэлі, і імі ўжо ніхто не карыстаецца. Журналісты плянуюць абараняць свае правы і будуць абскарджваць рашэньне судзьдзі.

# Жыхары Віцебску патрабуюць вярнуць ім права на правядзеньне пікетаў і мітынгаў

**Некалькі дзясяткаў жыхароў Віцебску падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет Міністраў з просьбай паспрыяць зьмяненьню рашэньня Віцебскага гарвыканкаму №881 ад 10.07.2009 г., якое рэглямэнтуе правілы звароту да ўладаў з заяўкамі на вулічныя акцыі. Віцебчукі просяць таксама, каб Саўмін ініцыяваў зварот у Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасьці гэтага дакумэнту Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**



Хрыстафор Жаляпаў, Аляксей Гаўруцікаў

Зварот ініцыяваў каардынатар руху "За свабоду" па Віцебскай вобласьці Хрыстафор Жаляпаў. Ён тлумачыць неабходнасьць гэткіх захадаў поўнай немагчымасьцю правесьці масавыя акцыі з ініцыятывы грамадзкіх актывістаў:

**"З часу прыняцьця рашэньня гарвыканкаму №881 актывістам не далі дазволу ні на адзін пікет, ні на адзін мітынг, ні на адзін сход. Прычым ня толькі ў Віцебску, але і ў Воршы, і ў Глыбокім, і ў іншых рэгіёнах. Бо апошнія рашэньні рэгіянальных выканкамаў перапісаныя на ўзор віцебскага: паўсюль патрабуюць, каб разам з заяўкай на акцыю ініцыятары прыкладалі дамовы на абслугоўваньне супрацоўнікамі міліцыі, ЖКГ, а таксама мэдыкамі. Гэтыя структуры ўхіляюцца ад заключэньня дамоваў любымі магчымымі шляхамі. Прыкладам, з гарадзкой паліклінікі нам пэрыядычна адказваюць, што за 2-3 тыдні да плянаванай акцыі ім вядома пра будучую ўспышку сэзонных захворваньняў, і якраз у гэты самы дзень. Дык што, маўляў, вольных работнікаў няма – і супрацоўнічаць з вамі мы ня будзем".**

Змусіць да заключэньня дамоваў праз суды таксама не ўдавалася ні разу, хаця такія працэсы неаднойчы былі і ў Віцебску, і ў Воршы. Дарэчы, якраз у Аршанскім судзе ўпершыню прагучала прызнаньне работнікаў ЖКГ, што яны не аказваюць паслугі паводле замоў прыватных асоб, нават калі апошнія — ініцыятары масавых акцыяў. Высьветліся, што такія дамовы ня можа заключыць і паліклініка — там таксама ня маюць прэйскуранту на паслугі такога кшталту. Ня мае расцэнак на нейкія паслугі па замовах грамадзян і міліцыя...

Дарэчы, міліцыянты, адмаўляючыся заключаць дамовы, перадусім спасылаюцца на заканадаўства, а не на рашэньне мясцовых уладаў. Зь міліцэйскіх управаў пішуць, што дамовы будуць заключаць толькі тады, калі будзе дазвол мясцовай адміністрацыі, як патрабуе закон. А не наадварот, як запісана ў рашэньні гарвыканкаму ці райвыканкаму.

Віцебскі актывіст аргкамітэту па стварэньні сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" юрыст Аляксей Гаўруцікаў прааналізаваў рашэньні мясцовых уладаў — ня толькі на Віцебшчыне, але і ў другіх абласьцёх. Высьветлілася, што мясцовыя ўлады выпрацавалі дакумэнты, якія супярэчаць дзеючаму заканадаўству, ня толькі ў Віцебскай вобласьці, але і ў шэрагу раёнаў Гомельшчыны, Магілёўшчыны, Берасьцейшчыны...

**"40 з вывучаных мной рашэньняў мясцовых органаў улады рэглямэнтуюць, каб грамадзяне заключалі дамовы папярэдне, перад акцыямі, яшчэ не атрымаўшы на іх дазвол. І толькі 28 рашэньняў маюць зьмест, які адпавядае патрабаваньням заканадаўства і не вымагае ад грамадзяняў нейкіх дадатковых крокаў. Такім чынам, у пераважнай большасьці рэгіёнаў парушаецца права грамадзяніна на публічнае выказваньне ўласных меркаваньняў праз правядзеньне мірных сходаў".**

Віцебскія актывісты першымі зьвярнуліся ў Савет Міністраў, каб адтуль распарадзіліся ўнесьці зьмены ў рашэньне гарвыканкаму. Ранейшыя спробы ініцыяваць гэты працэс былі беспасьпяховыя: з усіх інстанцыяў актывістам адказвалі, што рашэньне прайшло юрыдычную экспэртызу, зацьверджанае, а значыць прызнанае дасканалым.

# Незалежныя прафсаюзьнікі не змаглі адстаяць свае правы ў судзе



Іван Сьвятоха

**Суд адмовіў пяршоўцы Беларускага Незалежнага прафсаюзу (БНП) работнікаў ААТ «Нафтан» у задавальненьні патрабаваньня да гарвыканкаму скасаваць рашэньне аб ануляваньні рэгістрацыі дадатковага пагадненьня, падпісанага зь незалежным прафсаюзам.**

Наваполацкі гарвыканкам спачатку зарэгістраваў, а потым ануляваў рэгістрацыю дадатковага пагадненьня зь першаснай арганізацыяй БНП аб далучэньні да калектыўнай дамовы ААТ «Нафтан». Гэта адбылося пасьля скаргі Белхімпрафсаюзу. Там ўпэўненыя, што дадатковае пагадненьне павінны былі ўзгадніць з імі.

Незалежны прафсаюз падаў у суд на гарвыканкам, выставіўшы адзінае патрабаваньне: скасаваць ануляваньне рэгістрацыі дадатковага пагадненьня. На судовым паседжаньні 18 чэрвеня судзьдзя Рымша адмовіў незалежнаму прафсаюзу ў просьбе.

*— Сытуацыя дзіўная: наймальнік лічыць, што мы маем рацыю, мы лічым, што мы маем рацыю. Але судзьдзя ўсё адно вынес рашэньне, грунтуючыся на тым, што мы не спыталі дазволу ў галіновага прафсаюза. Хоць у ніводным дакумэнце гэта не прапісана. Нонсэнс!* — Адзначыў старшыня першаснай арганізацыі БНП работнікаў ААТ «Нафтан» Іван Сьвятоха. — *На судовым паседжаньні прадстаўнікі гарвыканкаму стаялі на сваім. Мабыць, прызнаць сваю памылку для іх было б ганьбай. Судзіў малады хлопец — і ён, мабыць, не адважыўся ісьці супраць гарвыканкаму. Прынятае ім рашэньне ня робіць яму гонару, пачынаць кар'еру з такога... гэта адаб'ецца на рэпутацыі.*

Незалежны прафсаюз мае намер падаць апэляцыю ў абласны суд.

*— Ня думаю, што там прымуць наш бок. Але проста так пакідаць гэтую справу нельга, гэта нешта незвычайнае. Калі рашэньне будзе адмоўным, мы на гэтым ня спынімся,* — сказаў Іван Сьвятоха.

Лідэр незалежнага прафсаюзу работнікаў ААТ «Нафтан» таксама зьвярнуў увагу на няёмкае становішча, у якое паставілі наймальніка.

*— Наймальнік сказаў выразна: калі нават дадатковае пагадненьне не зарэгістраванае ў гарвыканкаме, яно працуе. Але сам факт скасаваньня рэгістрацыі... Гэта непавага ня толькі да прафсаюзу, яны зьняважылі наймальніка. Мне нават больш крыўдна за яго. Наймальнік даў згоду (генэральны дырэктар жа не проста так падпісаў дадатковае пагадненьне, значыць, былі ўсе юрыдычныя падставы), перадаў паперы ў гарвыканкам, а той апускае яго ніжэй за ўзровень, кажа, што наймальнік зрабіў няправільна. Наймальніка ні ў што ня ставяць,* — адзначыў Іван Сьвятоха.

# Замест лазьні — халодны душ

**Улады ў чарговы раз забаранілі Паўлу Левінаву зладзіць масавае мерапрыемства ў Віцебску. У гэты раз віцебскі праваабаронца прасіў дазволіць яму правесьці сход у... лазьні. У гарадзкой лазьні №1 ён хацеў пагаманіць пра здаровы лад жыцьця зь дзесяцьцю алькагольна-залежнымі грамадзянамі. Аднак намесьнік старшыні адміністрацыі Чыгуначнага раёну Віцебску Натальля Ляпёшкіна адказала праваабаронцу забаронай.**

Прычына, якая сталася падставай для адмовы Паўлу Левінаву, стандартная — заяўнік не падаў у раённую адміністрацыю дамоваў зь міліцыяй, ЖКГ і мэдыкамі, якія згодна з рашэньнем Віцебскага гарвыканкаму №881, павінны ахоўваць сход, наводзіць чысьціню пасьля мерапрыемства і сачыць за станам здароўя ўдзельнікаў сходу.

Праваабаронца лічыць сытуацыю з забаронай лазьневага сходу абсурднай. Бо як камічна глядзелася б з боку тых, што мыюцца, калі побач з тымі, хто сабраўся ў апарні стаяў бы нарад міліцыі пры поўным рыштунку, дворнік зь венікам і шуфлікам і мэдык з чамаданчыкам хуткай дапамогі. Павал Левінаў заяўляе, што ён ня згодны з забаронай і зьбіраецца судзіцца з уладамі, якія замест добрай цёплай лазьневай кампаніі ўчынілі яму халодны душ.




Павал Левінаў

# Доктар Пастноў просіць дырэктара РНПЦ псыхічнага здароўя разабрацца «ў фактах выкарыстаньня псыхіятрыі з карнымі мэтамі»

**Віцебскі псыхіятар-нарколяг Ігар Пастноў зьвярнуўся з адкрытым лістом да дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтру псыхічнага здароўя Аляксандра Старцава, у якім просіць яго "асабіста разабрацца ў фактах выкарыстаньня беларускай псыхіятрыі з карнымі мэтамі". Тэкст ліста разьмешчаны на сайце *freeregion.info.***



Ігар Пастноў

У якасьці прыкладу Пастноў прывёў выпадак з Алесяй Садоўскай з Маладэчна, якая была затрыманая ў ноч з 31 сьнежня 2011 году на 1 студзеня 2012 году і, паводле зьвестак праваабаронцаў, зьбітая супрацоўнікамі Маладэчанскага РАУС.

Паводле слоў Пастнова, "спрабуюць прызнаць, што дзяўчына ў стане поўнай адсутнасьці памяці" і накіраваць на прымусовае лекаваньне, у той час як рэспубліканская экспэртыза выявіла ў Садоўскай лёгкае разладзьдзе настрою. "Выступіўшы як лекар-спэцыяліст на судзе, я лёгка адмяніў гэтае рашэньне, спаслаўшыся на вызначэньне МКБ-10 манаграфіі прафэсара Еўсьцігнеева", — піша лекар-актывіст.

Ён падкрэсьліў, што, згодна з рашэньнем суду, 26 чэрвеня Алесі Садоўскай неабходна прайсьці паўторную экспэртызу, у сувязі з чым Пастноў просіць Старцава прыняць яго з дакумэнтамі па гэтай справе. Паводле яго слоў, Алеся Садоўская "ня мае сур'ёзнай псыхапаталёгіі, што прызнана і ў Расеі".

На думку Пастнова, "гісторыя Алесі Садоўскай будзе яшчэ больш гучнай". "Калі ўсё ж яе адправяць на прымусовае лячэньне, то яна, як і я, будзе ахвярай карнай псыхіятрыі беларускага рэжыму, а беларускай псыхіятрыі ад гэтай ганьбы будзе складана адмыцца. Нават у суворыя гады сталінскіх і хрушчоўскіх рэпрэсіяў беларуская псыхіятрыя не запляміла сябе фактамі расправы над іншадумцамі", — адзначыў лекар-актывіст.

Пастноў заявіў, што Беларусі прыйдзецца адказваць у Камітэце па правах чалавека ААН, які "прыняў маю справу як прыярытэтную". Акрамя таго, лекар расказаў, што яго падтрымала незалежная Асацыяцыя псыхіятраў Расеі, зь якой ён цяпер супрацоўнічае. **"Маю ў распрацоўцы некалькі спраў, калі псыхіятрыя замест абароны выкарыстоўвае праблемы пацыентаў. Усе яны будуць прадстаўленыя Сусьветнай арганізацыі псыхіятраў і падтрыманыя расейскімі псыхіятрамі, якія зьяўляюцца сябрамі Сусьветнай асацыяцыі псыхіятраў", — напісаў Пастноў.**

Нагадаем, у 2013 годзе Пастноў больш за месяц знаходзіўся на прымусовым лячэньні ў Віцебскім абласным клінічным цэнтры псыхіятрыі. Там ён апынуўся пасьля свайго чарговага відэавыступу ў інтэрнэце, у якім выказаў крытычныя меркаваньні аб стане віцебскай медыцыны, прымусовым кадаваньні ад алькагалізму, а таксама заявіў аб тым, што яго запужваюць прымусовым псыхіятрычным лячэньнем. 16 жніўня Пастнова забралі проста з працы ў псыхіятрычную лякарню, а 20 верасьня перавялі на дзённы стацыянар. Потым яму прапанавалі працу лекара-нарколяга ў гэтай жа клініцы.



Бюлетэнь "За правы чалавека" выдаецца праваабаронцамі Віцебскага рэгіёну.
Наклад 299 асобнікаў.
Пры падрыхтоўцы бюлетэня выкарыстоўваліся матэрыялы сайта http://prava.vitebsk.cc і іншыя Інтэрнэт-рэсурсы.